Гродна
№3 (461),
29 студзеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Давeрыліся Богу і прысягнулі Яму на вернасць

2 лютага Касцёл перажывае Сусветны дзень кансэкраванага жыцця. Свята 20 гадоў таму ўстанавіў св. Ян Павел II. Падчас яго вернікі дзякуюць Пану за людзей, якіх Ён паклікаў праз розныя харызмы і духоўнасць сведчыць свету аб сваёй міласэрнасці, умацоўваць і абнаўляць справу абвяшчэння Евангелля для справядлівасці і міру ў адной вялікай чалавечай сям'і. Каля 160-ці кансэкраваных асоб з Гродзенскай дыяцэзіі, якія прадстаўляюць 22 жаночыя і 14 мужчынскіх кангрэгацый, таварыстваў, ордэнаў і інстытутаў, у гэты дзень адновяць свае манаскія абяцанні.


● працяг на с. 4–5





## Каляндар падзей

*1 лютага*
*3-я гадавіна біскупскай сакры кс. б-па Юзафа Станеўскага.*
*Молімся ў інтэнцыі дапаможнага біскупа гродзенскай дыяцэзіі.*

*2 лютага*
*Свята Ахвяравання Пана (МБ Грамнічнай).*

*5 лютага*
*Баслаўленне вады і хлеба з нагоды ўспаміну св. Агаты.*

*11 лютага*
*Сусветны дзень хворых.*
*Молімся ў інтэнцыі ўсіх хворых і пакутуючых.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Люты*
*Аб здароўі для хворых, аблягчэнні ў цярпеннях і шчаслівай смерці для паміраючых.*
*Аб развіцці душпастырства хворых, асабліва ў бальніцах і медыцынскіх клініках.*
*Аб дары плённай падрыхтоўкі да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 7 лютага 19.45, паўтор – 8 лютага ў 9.00.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;*
*у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Кансэкраваныя асобы з'яўляюцца знакам Бога ў розных сферах жыцця". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IV НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мц 5, 1–12а**

Убачыўшы натоўп, Езус падняўся на гару. А калі сеў, падышлі да Яго вучні Ягоныя. І, адкрыўшы вусны свае, Ён вучыў іх, кажучы: “Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае. Шчаслівыя засмучаныя, бо яны суцешаныя будуць. Шчаслівыя лагодныя, бо яны зямлю атрымаюць у спадчыну. Шчаслівыя галодныя і прагнучыя справядлівасці, бо яны насычаныя будуць. Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць. Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць. Шчаслівыя міратворцы, бо яны сынамі Божымі названыя будуць. Шчаслівыя, каго пераследуюць за справядлівасць, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае. Шчаслівыя вы, калі будуць вас зневажаць і пераследаваць, і ўсяляк зласловіць несправядліва з-за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода вашая ў нябёсах”.

### ХТО ВЫТРЫВАЕ ДА КАНЦА

Гэты фрагмент Евангелля прадстаўляе 8 блаславенняў, дадзеных Езусам Хрыстом. Яны павінны быць фундаментам хрысціянскага жыцця. Поруч з Дэкалогам і запаведзямі любові на іх павінна грунтавацца наша штодзённасць. Быць убогім духам, неабыякавым да лёсу чалавека і свету, ціхім, справядлівым, міласэрным, мець чыстае сэрца, прыносіць супакой, не здавацца, нягледзячы на пераслед, – гэтыя бласлаўленні з’яўляюцца нібы рэцэптам правільнага жыцця кожнага сапраўднага вызнаўцы Хрыста.

Апошнім часам часта можна пачуць, што гэта немагчыма, што свет цяпер іншы, а ў ім – іншыя каштоўнасці. Весці жыццё сапраўднага хрысціяніна нялёгка, таму што Евангелле значна адрозніваецца ад таго, да чаго нас заахвочваюць тыя ж сучасныя рэкламы, якія маніпуліруюць лозунгамі тыпу “вольнасць” і “правы меншасцей”. У сувязі з гэтым у нашых сэрцах могуць нарадзіцца пытанні: ці варта быць “знакам пратэсту”? ці не лепш ісці ў тым жа напрамку, што і ўсе, каб не падвяргаць сябе непрыемнасцям? ці не лепш быць такім, як іншыя? Не варта, не лепш! Хрыстос гаворыць, што нават калі нас будуць зневажаць, пераследаваць і зласловіць, атрымаем вялікую ўзнагароду ў небе. Варта трываць з Панам, хоць і цяжка, бо “хто вытрывае да канца, будзе збаўлены” (Мк 13, 13).

### V НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мц 5, 13–16**

Езус сказаў сваім вучням: “Вы – соль зямлі. Калі ж соль страціць смак, то чым пасоліш яе? Яна ўжо ні на што не прыдасца, хіба што выкінуць яе вон на патаптанне людзям. Вы – святло свету. Не можа схавацца горад, які стаіць на вяршыні гары. І, запаліўшы свяцільнік, не ставяць яго пад пасудзінаю, але на свечніку, і свеціць усім, хто ў доме. Няхай святло вашае так свеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца вашага, які ў нябёсах”.

### БУДЗЬМА СОЛЛЮ ЗЯМЛІ І СВЯТЛОМ СВЕТУ

У дадзеным фрагменце Евангелля заключана чарговае заахвочванне да перамянення. Яго можна сфармуляваць наступным чынам: вызнаўца Хрыста павінен быць як соль, што надае смак кожнай страве, або як святло, без якога сёння цяжка ўявіць штодзённасць.

Хрысціянін мае быць соллю. Праз сваю веру і ўчынкі ён павінен паказваць, што на жыццё можна глядзець па-іншаму, рэчаіснасць успрымаць інакш, калі фундаментам з’яўляецца Хрыстос. Прыналежнасць і вернасць Богу ва ўсім надае другі смак існаванню кожнага з нас. Хрысціянін павінен быць таксама святлом, што ззяе для ўсіх і ўказвае на сапраўдную крыніцу, якой з’яўляецца Езус. Паколькі без Яго мы так часта блукаем у цемры, няздольныя ўбачыць правільны шлях.

Дык прымем жа запрашэнне быць соллю зямлі і святлом свету, каб скарб нашай веры не аказаўся растаптаным і выкінутым, каб наша святло не толькі ззяла для нас саміх, але і іншым паказвала, што з цемры можа вывесці толькі Хрыстос. Толькі Ён здольны запаліць людзей для сапраўднага жыцця.

*Кс. Ян Раманоўскі*



## Слова рэдактара

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Кансэкраванае жыццё – справа кожнага з нас

*Прысвечаны манаскім асобам Сусветны дзень кансэкраванага жыцця прыгадвае аб людзях, якія пачулі заклік да непасрэднага пераймання Езуса праз выкананне евангельскіх парад. Маем добрую нагоду, каб выказаць сваю ўдзячнасць і ўзнесці яшчэ мацнейшыя малітвы ў інтэнцыі ўсіх манахаў і манахінь, якія аддана служаць Касцёлу.*

Кансэкраванае жыццё – асаблівы позірк Бога на чалавека. Гэта не асабістае рашэнне пэўнай асобы, а выбар, які здзяйсняе сам Пан, адорваючы чалавека не заслужанай ласкай паклікання. Надзяляе ёю “бясплатна”, з чаго вынікаюць пэўныя наступствы і канкрэтныя заданні, што датычаць Касцёла.

Езус гаворыць: “Не вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас” (Ян 15, 16). Хрыстос кліча таго, каго хоча, тады, калі хоча, і там, дзе хоча. Ён не выбірае найлепшых, але тых, каго патрабуе. Такім жа чынам Збаўца паклікаў Пятра, Якуба і Яна, якія былі рыбакамі, Мацвея, што быў мытнікам… Яны, напэўна, мелі свае планы на жыццё, нейкія слабасці. Але Хрыстос паглядзеў на выбраных з любоўю, бо менавіта яны былі Яму патрэбны.

Сёння таксама ёсць шмат адважных, якія пакінулі ўсё і пайшлі за Хрыстом, несучы Яго святло туды, дзе самая непраглядная цемра, уваскрашаючы надзею ў сэрцах прыгнечаных людзей. Мы можам сустрэць іх у сваіх парафіях, дзе з вялікай стараннасцю катэхізуюць дзяцей і моладзь, наведваюць бальніцы і дамы састарэлых, працуюць у закрыстыях і касцёльных установах. Кансэкраваныя асобы сярод нас, яны – багацце Касцёла!

Св. Ян Павел II напісаў у адгартацыі “Vita Consecrata”: “Кансэкраванае жыццё з’яўляецца каштоўнай аздобай Божага дома – Касцёла”. Манаскія асобы на ўласным прыкладзе паказваюць, што кожны хрысціянін, кожны чалавек можа, а нават і павінен, паставіць Бога ў цэнтр свайго жыцця, мар і намераў. Іх сведчанне востра неабходна ў свеце, у якім людзі вельмі часта не ведаюць, навошта жывуць, як і для каго.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай сёлетні Сусветны дзень кансэкраванага жыцця будзе для ўсіх напамінам, што манаскае жыццё і клопат аб яго развіцці – справа ўсяго Касцёла, у тым ліку кожнага з нас. Калі хочам, каб новыя асобы велікадушна, ахвярна і поўнасцю даручалі сябе Пану Богу, бясконца Яму давяраючы, то як хрысціяне не можам ні іх саміх, ні іх пакліканне пакінуць без малітоўнай, духоўнай і матэрыяльнай падтрымкі.

З удзячнасцю за дар кансэкраванага жыцця ў Касцёле даверым Хрысту і Яго Найсвяцейшай Маці ўсіх манахаў і манахінь, якія служаць у нашай дыяцэзіі. Памолімся, каб іх сведчанне, выражанае праз малітву і паслугу ў разнастайных галінах апостальскай дзейнасці Касцёла, было для многіх людзей яскравым прыкладам сур’ёзнага ўспрымання і радаснага перажывання Евангелля.




# Штодня маліцеся Ружанец

**Пасвячы авечак у даліне Кова да Ірыя, дзеці сустракаліся з Марыяй, якая дала ім у рукі канкрэтную зброю для змагання з сіламі зла і сказала: “Я – Каралева святога Ружанца. Прыходжу папярэдзіць вернікаў, каб выправіліся і пакаяліся. Нельга больш абражаць Бога, таму што Ён ужо вельмі зняважаны чалавечымі грахамі… Людзі павінны адгаворваць Ружанец. Няхай моляцца яго штодня”.**

У кожным са сваіх аб’яўленняў Марыя нагадвала пра Ружанец, тым самым падкрэсліваючы, што праз практыку гэтай малітвы кожная асоба можа выпрасіць у Бога патрэбныя ласкі, а асабліва – дар супакою для ўсяго свету.

**Ружанец быў любімай малітвай св. Яна Паўла II.**

**У першым аб’яўленні 13 мая** Маці Божая мела складзеныя, нібы ў жэсце малітвы, далоні, якія абапіраліся на грудзях і былі скіраваны ўверх. З Яе правай рукі звісаў ружанец. Калі дзеці запыталіся ў Панны, ці пападуць у неба, Марыя адказала станоўча. Але, звяртаючыся да Францішка, дадала, што ён “павінен адгаварыць яшчэ шмат Ружанцаў”. Такім чынам Маці Божая дала зразумець, што “шмат Ружанцаў” здольны адкрыць неба.

**У другім аб’яўленні 13 чэрвеня** Багародзіца сказала: “Хачу, каб вы прыйшлі сюды ў 13-ты дзень наступнага месяца, каб штодзённа маліліся Ружанец і навучыліся чытаць…”.

**У трэцім аб’яўленні 13 ліпеня** паведаміла: “Хачу, каб вы прыйшлі сюды ў 13-ты дзень наступнага месяца і надалей штодзень маліліся Ружанец у гонар Маці Божай Ружанцовай, каб выпрасіць супакой на свеце і канец вайны, бо толькі Яна зможа дапамагчы… У кастрычніку скажу вам, хто Я і чаго хачу, і ўчыню цуд, які ўсе ўбачаць, каб паверылі…”. Апісваючы гэтае аб’яўленне, Луцыя, будучы ўжо манахіняй, расказала пра жаданне Марыі: “Калі моліцеся Ружанец, пасля кожнай таямніцы паўтарайце: «О мой Езу, прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы на неба і дапамажы асабліва тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць»”.

**У чацвёртым аб’яўленні 19 жніўня** Марыя сказала: “Хачу, каб вы надалей прыходзілі ў 13-ты дзень месяца і штодзённа маліліся Ружанец”. Калі Луцыя спытала, што павінны зрабіць з грашыма, якія людзі пакідаюць у Кова да Ірыя, Маці Божая адказала: “Няхай зробяць 2  feратроны… Грошы, якія будуць складваць на іх, прызначаны на свята Маці Божай Ружанцовай, а рэшта – на капліцу, якая павінна быць пабудавана…”.

**У пятым аб’яўленні 13 верасня** Найсвяцейшая Панна Марыя паведаміла: “І надалей маліцеся Ружанец, каб выпрасіць заканчэнне вайны…”.

**У шостым, і апошнім, аб’яўленні 13 кастрычніка** сказала Луцыі: “Хачу, каб тут была пабудавана капліца ў Мой гонар. Я – Маці Божая Ружанцовая. Надалей штодзённа маліцеся Ружанец…”. У гэты ж дзень адразу пасля знікнення Марыі адбыўся вядомы Цуд сонца, які назірала каля 70-ці тысяч чалавек, прычым не толькі ў месцы аб’яўленняў, але і ў ваколіцы, а нават і на тэрыторыях, аддаленых больш за 30 кіламетраў.

Марыя абяцае ўсім, хто моліцца на ружанцы, асаблівую абарону і шчодрыя ласкі. Выразна адзначае, што ён стане для людзей зброяй і зменшыць цяжар іх грахоў. Падчас аб’яўленняў Маці Божая таксама падкрэсліла, што тыя, хто будзе штодзённа маліцца Ружанец, не памруць без святых сакрамантаў, а таксама ў жыцці і пры смерці будуць мець Божае святло і паўнату Яго ласкі.

**Калі за некалькі дзён да смерці а. Піо спыталі, што важнае ён хацеў бы перадаць людзям, той адказаў: “Заўсёды адгаворвайце Ружанец. Маліцеся яго так часта, як толькі можаце. Д’ябал увесь час стараецца знішчыць ружанцовую малітву, але гэта яму ніколі не ўдасца. Яе дала Тая, якая валадарыць над усім і ўсімі. Менавіта Яна навучыла нас маліцца на ружанцы, так, як Езус навучыў казаць «Ойча наш»”.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адважныя сведкі веры


З міністрантаў часта вырастаюць добрыя сужэнцы і бацькі, а таксама цудоўныя святары

**Прыходзяць за паўгадзіны да пачатку літургіі, першымі прымаюць св. Камунію, узначальваюць Крыжовы шлях і распальваюць велікоднае вогнішча. Хто яны? Міністранты.**

## ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ПРЭЗБІТЭРЫІ – ВЯЛІКІ ГОНАР

Задачай пробашчаў з'яўляецца клопат аб тым, каб пры амбоне заўсёды меліся памочнікі. І так як, напэўна, няма касцёла, дзе не было б міністрантаў, адпаведныя душпастырствы існуюць у кожнай парафіі. Усе яны ўтвараюць агульнае Душпастырства літургічнай службы алтара Гродзенскай дыяцэзіі.

Цягам апошніх гадоў колькасць міністрантаў узрастае. Пастунова адны пакаленні змяняюць другія, але сама спецыфіка служэння застаецца нязменнай. Мэта душпастырства – прывіць міністрантам любоў да літургіі. Данесці да іх свядомасці, што маюць гонар знаходзіцца бліжэй алтара – у прэзбітэрыі. А гэта патрабуе асаблівай увагі і адказнасці.

Існуе некалькі ўзроставых груп міністрантаў. Самыя старэйшыя называюцца "сеньёры". Яны звычайна ўжо маюць дарослых дзяцей і нават унукаў. Потым ідуць старэйшыя, якія працуюць, вучацца ў навучальных установах або выпускных класах у школе. І малодшыя. Яны таксама могуць падзяляцца ўнутры сваёй групы на ўзроставыя катэгорыі. Ёсць яшчэ кандыдаты ў міністранты і лектары (асобы, якія прызначаны для чытання Святога Пісання).

Далучыцца да міністранцкай брацii можа любы жадаючы. Але перад гэтым неабходна прайсці навучанне, падчас якога правяраецца адказнасць і сумленнасць кандыдата ў служэнні пры алтары. А пачынаецца "школа" яшчэ ў сям'і, калі бацькі вучаць сваіх дзяцей, як трэба паводзіць сябе падчас св. Імшы.

## КАСЦЁЛ ПАВІНЕН УЗРАСТАЦЬ

Актыўна развіваецца душпастырства міністрантаў у лідскай парафіі Святой Сям'і. Існуе там больш за 10 гадоў. Амаль 4 гады яго апекуном з'яўляецца кс. Юрый Гурскі. У рамках супольнасці праводзяцца спецыяльныя катэхезы, ладзяцца рэкалекцыі. Міністранты разам з вікарыем выязджаюць у іншыя парафіі і на працягу тыдня разважаюць над Евангеллем ды роляй свайго служэння ў Касцёле. На кожных канікулах падчас навучальнага года для міністрантаў арганізуюцца Дні засяроджання.

Найбольш старанных хлопцаў, якія могуць адмовіцца ад забаў за камп'ютарам і амаль кожны дзень прыходзяць да касцёла, святар імкнецца нейкім спосабам адзначыць. Напрыклад, дорыць новую кожжу ці кнігу, білет у кіно або аквапарк. ***"Касцёл павінен узрастаць, –*** заўважае кс. Юрый. ***– А адбываецца гэта тады, калі моладзь у гэтым свеце, поўным розных выклікаў, жыве верай у Хрыста. Таму мы адказныя за маладых людзей. А калісьці і яны, прыняўшы эстафету, будуць адказваць за касцёльную супольнасць".***

Хлопцы разам бавяць вольны час. Кожны тыдзень збіраюцца паганяць мяч. ***"Мінулай восенню нашы міністранты занялі 1 месца ў турніры па міні-футболе,*** – адзначае кс. Юрый. – З***атым паехалі на міжнародны турнір у Варшаву і ўзялі там 2 месца. Дарэчы, міністранты разам з дзяўчатамі паспяхова выступаюць на Парафіядзе, дзе некалькі раз займалі першыя месцы. Апошнім разам прывезлі «бронзу» па ўсіх дысцыплінах з міжнароднай Парафіяды".***

Сумесная дзейнасць інтэгруе моладзь. Прыемна назіраць, калі хлопцы вучаць адзін аднаго іграць на гітары, разам займаюцца польскай мовай. Старэйшыя вучаць малодшых, як быць добрым і адказным міністрантам. Нешта падобным чынам адбываецца і ў сям'і, дзе дзеці вучацца ад бацькоў.

## ПЛЁН – У НЯСТОМНЫМ ЖАДАННІ СЛУЖЫЦЬ

Амаль год у лідскай парафіі існуе малітоўная група маці, якія прыходзяць у касцёл і моляцца за сваіх дзяцей-міністрантаў. Усяго ў гэтым душпастырстве налічваецца больш за 100 удзельнікаў.

***"На маю думку, галоўнае дасягненне супольнасці ў тым, што хлопцы хочуць і маюць адвагу вызнаваць сваю веру,*** – гаворыць кс. Юрый. – ***Ёсць шмат старэйшых міністрантаў, якія вучацца ў іншых гарадах ці служаць у войску, а калі прыязджаюць дамоў, з задавальненнем прыходзяць у вольны час служыць у комжы пры алтары. А як не ганарыцца тымі міністрантамі, якія наведваюць касцёл са сваімі нарачонымі ці жонкамі і дзеткамі? Верагодна, сярод іх тыя, хто праз дзясяткі гадоў і нас нечаму навучаць. Можа, і адкрыюць дзверы спавядніцы...".***

***Ангеліна Пакачайла***


Нярэдка паміж міністрантамі нараджаецца моцнае сяброўства, якое трывае праз жыццё


Па-за касцёлам хлопцы з задавальненнем бавяць вольны час разам

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Лянівыя хрысціяне – гэта хрысціяне, якія не хочуць ісці наперад, не змагаюцца за тое, каб свет змяняўся, не імкнуцца да новага – таго, што пойдзе на карысць усім. Яны стаяць на месцы, знайшоўшы ў Касцёле цудоўную "паркоўку". І я маю на ўвазе свецкіх вернікаў, святароў, біскупаў... Усіх. Існуюць т. зв. "прыпаркаваныя" хрысціяне. Касцёл нібы захоўвае іх жыццё, таму яны адважваюцца вырушыць наперад толькі з усімі магчымымі страхоўкамі. Гэтыя "нерухомыя" хрысціяне нагадваюць мне пра тое, аб чым у дзяцінстве папярэджвалі старэйшыя: "Сцеражыся стаячай вады, якая не бяжыць, бо яна псуецца першай".*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы 17.01.2017*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Трэба памятаць, што навяртанне – гэта адмаўленне ад граху. Аднак яно не зводзіцца выключна да ўсведамлення сваёй віны і жалю за ўчыненае (гэта толькі адзін з аспектаў). Па сваёй сутнасці навяртанне азначае перамену сэрца, адрачэнне ад эгаізму і зварот да Бога.*

*Горкія слёзы і перапрашэнне – гэта яшчэ далёка не навяртанне, бо яго ласцы заўсёды спадарожнічае радасць і супакой. Таму навяртанне не павінна асацыіравацца з негатыўнымі пачуццямі: такімі як віна, агіда да самога сябе, смутак, дэпрэсія і г. д. Яно з'яўляецца плёнам спаткання з Хрыстом, вядзе да поўнага зразумення, што такое грэх, а што – Божая любоў і міласэрнасць. Менавіта да такога навяртання заклікае Марыя ў Фацімскіх аб'яўленнях, каб, як гаворыць Езус, мы маглі любіць Бога ўсім сэрцам, усёй душой, усёй моцай і ўсім розумам, а бліжняга – як самога сябе (параўн. Лк 10, 27).*

*Фрагмент пастырскага паслання на 2017 г.*

### *Кс. бп Антоній Дзям'янка*



*Кансэкраванае жыццё знаходзіцца ў самым сэрцы Касцёла як элемент, які мае фундаментальнае значэнне для яго місіі, паколькі выражае саму сутнасць хрысціянскага паклікання і імкненне ўсяго Касцёла-Нявесты да з'яднання з адным Узлюбленым (параўн. Vita consecrata).*

*Гісторыя Касцёла сведчыць аб тым, што заўсёды ёсць людзі, якія па прыкладзе евангельскай Марыі прагнуць выбраць лепшую долю (параўн. Лк 10, 42) – жыццё ў чысціні, беднасці і паслухмянасці, каб чыстым і непадзельным сэрцам служыць Богу і бліжнім. Услед за св. Паўлам яны могуць сказаць: "Для мяне жыццё – гэта Хрыстос" (Флп 1, 21). Вопыт паказвае, што такое існаванне дазваляе асягнуць дасканалую любоў.*

*Фрагмент пастырскага ліста на Дзень кансэкраванага жыцця 2017 г.*




***Мінула 17 гадоў з таго моманту, як гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч накіраваў у нашу парафію Святой Тройцы ў Росі кс. Чэслава Паўлюкевіча... Адразу ўспамінаюцца першыя рэкалекцыі, якія ў касцёле праводзіў светлай памяці кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, выкладчык Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. Глыбока задумацца прымусілі яго развітальныя словы: "Паляпшайце становішча ў парафіі, каб гэты малады ксёндз не ўцёк. Пакуль што вы затрымаліся ў «першабытным стане»...".***

*І праўда, кругом непарадак. З Божай дапамогай, намаганнямі пробашча і вернікаў амаль усё змянілася. Пастунова была адноўлена святыня (захаваны ад грыбка сцены, пафарбаваны звонку і ўсярэдзіне, поўнасцю заменены дах, зладжаны абагрэў), добраўпарадкавана касцёльная тэрыторыя, уратавана ад знішчэння капліца на могілках. Ля ўвахода ў санктуарый Езуса Журботнага ўсталявана фігура Маці Божай Каралевы Супакою.*

*Цяпер пра парафію ведаюць далёка за яе межамі. Людзі прыязджаюць на рэкалекцыі, якія праводзяць знакамітыя святары, на традыцыйныя набажэнствы да Езуса Журботнага ў кожную другую суботу месяца. Дні засяроджання пакідаюць у душах вернікаў незабыўны след. Яны яшчэ доўга іх успамінаюць і абмяркоўваюць, дзякуючы чаму погалас пра санктуарый разыходзіцца па ўсім свеце. Да сённяшняга дня трывае праца над рэкалекцыйным домам у Росі. Колькі сіл і здароўя гэта каштуе нашаму пробашчу!*

*Мы, парафіяне, шчыра дзякуем Богу за час святарскай паслугі кс. Чэслава. Просім Усемагутнага і Найсвяцейшую Маці, каб падоўжылі гэты ланцужок часу яшчэ ў некалькі разоў. Ведай, наш добры пастыр, мы Цябе паважаем, любім і ганарымся. Выказваем шчырыя словы падзякі за клапатлівае і добрасумленнае служэнне. Няхай усе Твае планы і намеры здзяйсняюцца з Божай дапамогай, кожны дзень жыцця будзе асветлены міласэрнасцю, а сэрца заўсёды б'ецца рытмам любові Пана.*

***Усіх, хто ведае кс. Чэслава Паўлюкевіча, запрашаем да малітвы ў яго інтэнцыі. Нядаўна дыяцэзіяльны экзарцыст адсвяткаваў 50-гадовы юбілей. Такі жэст увагі з Вашага боку стане надзейнай падтрымкай для ксяндза на шляху да ўмацавання ў святасці, якая нараджаецца ў поце і слязах. Даволі няпроста ратаваць людскія душы, нястомна запальваць міласцю суровую рэчаіснасць. Духавенства мае моцную патрэбу ў малітве верных, каб крыж цярпення з прыходам Езуса быў заменены на крыж хвалы...***

***Алена Блажэеўская, Рось***




◆ Папа Францішак прыняў на прыватнай аўдыенцыі прэзідэнта Палесціны Махмуда Абаса. Падчас візіту гаворка ішла пра мірны працэс на Блізкім Усходзе. Выказвалася надзея на аднаўленне прамых перамоў паміж ізраільцянамі і палесцінцамі дзеля спынення насілля, якое выклікае непрымальныя пакуты грамадзянскага насельніцтва. Пасля прыватнай аўдыенцыі ў Ватыкане было адкрыта Палесцінскае пасольства. Гэта ўжо 5-ая сустрэча Махмуда Абаса і папы Францішка. Упершыню прэзідэнт Палесціны наведаў Святога Айца ў кастрычніку 2013 года.

◆ Лаўрэатамі ўзнагароды св. брата Альберта за 2016 год сталі Марцін Гартат, с. Малгажата Хмялеўская, Марэк Пякарчык, Крыштаф Ажэхоўскі і сям'я Тамала. Узнагарода прысуджаецца за нясенне дапамогі хворым і асобам з абмежаванымі здольнасцямі. Уручэнне медалёў св. брата Альберта адбудзецца 13 сакавіка ў Тэатры ім. Славацкага ў Кракаве падчас XVII Усяпольскага фестывалю музычна-тэатральнай творчасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі "Альберцыяна" 2017.

◆ У 20-ты раз католікі з Польшчы адзначылі Дзень іудаізму. Яго галоўная мэта – паглыбленне яўрэйска-каталіцкага дыялогу і лепшае зразуменне абедзвюх рэлігій. Знамянальнай была тэма 1-га дня: "Хто спатыкае Хрыста, спатыкае іудаізм". Таму што менавіта асоба Езуса асаблівым чынам паказвае сувязь Яго вызнаўцаў з супольнасцю яўрэяў, да якой належаў Збаўца. Польшча – 2-ая пасля Італіі краіна, дзе праходзяць падобныя мерапрыемствы. Дзень іудаізму адзначаецца таксама ў Аўстрыі, Галандыі і Швейцарыі.

◆ Сусветная арганізацыя аховы здароўя прыводзіць статыстыку, якая сведчыць аб прагрэсіўнай тэндэнцыі захворвання дзяцей на рак. Штогод смяротную хваробу выяўляюць у 50–200 дзяцей з мільёна. Сярод галоўных прычын "эпідэміі" эксперты вылучаюць дрэнную экалогію, незбалансаванае харчаванне, гіпадынамію. Спецыялісты заклікаюць бацькоў звярнуць большую ўвагу на лад жыцця дзяцей, кіраўніцтва дзяржаў – на распрацоўку праграм, якія накіраваны на паляпшэнне здароўя падрастаючага пакалення.

◆ Як паведамляе інтэрнэт-партал christianitytoday.com, паролі, якія змяшчаюць імя Божае або абазначэнне выбраных вершаў з Бібліі, належаць да ненадзейных з-за сваёй прадказальнасці. Напрыклад, пароль "Jesus", пачынаючы з 2012 года, уваходзіць у топ-25 горшых пароляў у інтэрнэце. Каб павысіць узровень бяспекі, чалавеку, які хоча выкарыстоўваць хрысціянскія азначэнні, неабходна дапаўняць паролі яшчэ нейкімі літарамі, лічбамі або знакамі.

credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl

Ангеліна Пакачайла

# Даверыліся Богу і прысягнулі Яму на вернасць



працяг са с. 1

**Як кансэкраваныя асобы распазнаюць сваё пакліканне? Можа, Усемагутны пасылае да іх анёла або прамаўляе чалавечым голасам? У чым "выбраныя" бачаць уласнае прызначэнне? А ці праўда, што яны імкнуцца абмежаваць размовы, носяць на поясе вяроўку с вузламі і ведаюць сакрэт старадаўняга лекавага бальзама? Шукаем адказы разам са "Словам Жыцця".**



**С. Ганна Мацуль CSFN**

*Прыгажосць кансэкрацыі, на мой погляд, заключаецца ў тым, што Бог не кліча адораных, але ўздальняе, дае моц пакліканым. Праз кансэкрацыю чалавек становіцца асаблівай уласнасцю Усемагутнага. Гэта сапраўдны дар і вялікі давер Бога чалавеку.*

*Я працую на праходной у доме сясцёр назарэтанак у Навагрудку: адчыняю дзверы, спатыкаю розных людзей і дзялюся з імі "часцінкай Назарэта", яго гасціннасцю. Прысутнічаю на шматлікіх сустрэчах для моладзі і сямей, якія арганізуюцца нашай супольнасцю. Многія там дзеляцца сваімі гісторыямі жыцця, хтосьці шукае парады або просіць аб малітве. Заўважаю пасля гэтых спатканняў і размоў, што людзі не патрабуюць чагосьці недасяжнага і вялікага, ім неабходна звычайнае цяпло. Шмат можна сказаць ці перадаць усмешкай, асабліва калі гэта не проста выраз на твары, а парыў сэрца. Адчуваю сапраўдную радасць, калі дзялюся з людзьмі дабром, а яны адказваюць узаемнасцю. Дзякую Богу за Яго дары, якімі магу служыць, за кожнага чалавека, якога сустракаю на сваім шляху, і асабліва – за дар пакліканя.*



**С. Міхаліна Кунаш CSFN**

*Маё пакліканне – гэта дарога жыцця, якую прапанаваў Бог, каштоўная пярліна, якую дазволіў адшукаць. Праз прысвячэнне Яму свайго жыцця з'яўляюся сведкам Божай любові для сучаснага свету. Пазнаючы Яго міласць, вучуся любові да іншага чалавека і хачу дзяліцца ёю з тымі, хто патрабуе. Мару, каб як мага болей людзей магло спазнаць бясконцую і міласэрную любоў Пана.*

*У дадзены момант нясу сваё служэнне ў Івянцы ў якасці катэхеткі: рыхтую дзяцей да Першай св. Камуніі, працую з моладдзю, праводжу перадшлюбныя сустрэчы для пар. Для мяне вялікая радасць спатыкацца з людзьмі, несці ім Божую праўду і любоў, дапамагаць у жыццёвых выпрабаваннях сваёй малітвай. Дзякую тым, каго сустракаю на сваім шляху, бо праз іх я больш пазнаю Усявышняга. У кожным з людзей ёсць кавалачак жывога Бога.*



**А. Аляксандр Махнач SP**

*Сэнс кансэкраванага ці, інакш кажучы, прысвечанага Богу жыцця, заключаецца ў наследаванні Хрыста на шляху евангельскіх парад – у чыстасці, убогасці і паслухмянасці. Канешне ж, усе людзі павінны наследаваць Збаўцу, але кансэкраваныя асобы пакліканы да асаблівага сяброўства з Езусам і прысвячэння Яму сябе "непадзеленым" чынам. Гэта прыгожая і патрабавальная вандроўка з Хрыстом праз жыццё.*

*Жаданне стаць манахам-святаром я адчуў яшчэ ў 9-ым класе школы. Раней хацеў быць настаўнікам і вучыць дзяцей. А пазней пачаў заўважаць, што мяне ўсё неяк болей "цягне" ў касцёл, на св. Імшу і набажэнствы. Было неймавернае прагненне быць з Езусам. Шукаў Яго ў розных сітуацыях жыцця, спрабаваў увайсці ў "стыль" Хрыста, які прапаноўваў мне святарства. Я гэта проста адчуваў, асабліва падчас малітвы. Бог не пасылаў мне анёла, не прамаўляў чалавечым голасам. Гэты заклік быў у сэрцы. Але ж я хацеў быць настаўнікам! Што рабіць? Пачаў шмат маліцца, каб Бог даў ясна распазнаць пакліканне.*

*Паходжу з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне, у якой служаць айцы піяры. Тады я яшчэ не разумеў, што ёсць нейкія "іншыя" святары. Удзельнічаючы летам у "канікулах з Богам", якія арганізоўвалі айцы, заўважыў штосьці вельмі важнае для сябе ў распазнанні пакліканя: святары і піярскія семінарысты вельмі цікава і творча працавалі з дзецьмі і моладдзю. Яны рабілі гэта так арганічна, што я пачаў цікавіць за іх выхаваўчай і душпастырскай працай. Вельмі падабалася іх стаўленне да маладых людзей, педагагічныя метады працы. Менавіта тут зразумеў, што гэта маё. Абодва пакліканні спалучыліся ў адным. Я нават для сябе сфармулку прыдумаў: "настаўнік + святар = піяр". Моцна верыў у тое, чаго прагнуў ад мяне Езус, і не памыліўся. Пакінуўшы ўсё, я знайшоў шчасце. Нясу сваё служэнне Богу і Яго Касцёлу ў харызме св. Юзафа Каласанса, асабліва дбаючы пра навучанне і выхаванне дзяцей і моладзі. Спярша 9 гадоў працаваў у Шчучыне, а цяпер ужо 2-гі год – у Лідзе.*

## Малітва за кансэкраваных асоб

Езус — Ты гэтым займіся!

**Божа, Ты даеш натхненне да дабра і дапамагаеш яго здзяйсняць. Вядзі дарогай вечнага збаўлення нашых братоў і сясцёр, якія дзеля Тваёй любові пакінулі ўсё і аддалі сваё жыццё Табе. Учыні, каб, перамаючы Хрыста, яны верна выконвалі абяцанні і служылі Табе і братам у духу ўбоства і з пакорай у сэрцы. Няхай маюць дух еднасці і, заахвочваючы адзін аднаго да выканання добрых учынкаў, праз святое жыццё будуць сапраўднымі сведкамі Хрыста. Амэн**

Найбольш вядомымі **назарэтанкамі** з'яўляюцца 11 блаславёных мучаніц з Навагрудка.

У рамане Віктора Гюго "Адрынутыя" статут **кармэлітак ад Дзіцятка Езус** апісваецца як самы строгі сярод каталіцкіх ордэнаў (уключае абмежаванне размоў).

**Салезіянкі** жывуць у духу Марнэзэ – атмасферы дома-супольнасці, напоўненай самаадданасцю, запалам, радасцю.

Гербам **серафітак** з'яўляецца Сэрца Марыі Панны, працятае 7-ю мячамі на знак мужнага перааддольвання ўласных пакут, а таксама ўдзялення дапамогі ў цярпенні тым, каго яно асаблівым чынам закранула.

Кангрэгацыя сясцёр **эўхарыстак** заснавана ў 1923 годзе ў Беларусі.

**Сёстры Маці Міласэрнасці** маюць Генеральны дом у Гродне.

**Сясцёр Беззаганнага Зачацця** ў Беларусі называлі "клапатлівымі анёламі гараджан".

Духоўная фармацыя **шанштацкіх сясцёр** працягваецца 8,5 гадоў.

На гербе **служак** знаходзяцца 7 зорак, якія сімвалізуюць цноты, што павінны наследаваць манахіні супольнасці: цнатлівасць, убоства, паслухмянасць, чыстая інтэнцыя, дух малітвы, дух ахвяры і глыбокая пакора.

Першапачатковай мэтай **місіянерак Святой Сям'і** было ўмацаванне ў веры і падтрымка ўз'яднання ўсходніх хрысціян з каталіцкім Касцёлам.

**Бернардынкі** ахвяруюць малітву і духоўна падтрымліваюць усіх, хто перажывае жыццёвыя праблемы і прыходзіць на прахадную кляштара, тэлефануе, піша лісты ці электронныя пасланні.

**Палатынкі** служаць хворым на рак асобам і іх сем'ям у хоспісах.

У ліку апостальскай дзейнасці **катарынак** – апека над ксяндзамі на пенсіі.

**Місіянеркі Хрыста Валадара** атачаюць душпастырскім клопатам эмігрантаў.

У Вроцлаве (Польшча) асобы, якія хочуць адпачыць, сцішыцца, духоўна ўзнавіцца, могуць замовіць пакой у кляштары **нотрдамак**.

Пад апекай **сясцёр ад св. Фаўстыны** знаходзяцца моладзевыя выхаваўчыя цэнтры, дамы для самотных маці, дамы апекі, дзіцячыя сады.

**Пастыранкі** стараюцца забяспечыць дзецям усебаковае развіццё праз катэхезу, пластыку, рытміку, музычныя і спартыўныя заняткі, жангліраванне, акрабатыку.

Першай паслугай сясцёр **францысканак** ад церпячых была праца ў прытулках для жанчын, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

Многія **міхаліткі** атрымліваюць інтэлектуальную і прафесійную фармацыю ва ўстановах вышэйшай адукацыі, каб унутраная дынаміка іх жыцця была прыкладам актыўнай апостальскай дзейнасці ў Касцёле.

**Сэрцанкі**, якія не маюць непасрэднага кантакту з актыўнай дзейнасцю супольнасці, удзельнічаюць у апостальстве праз малітву, цярпенне і ахвяру.

**Служабніцы** былі другой па чарзе бесхабітовай супольнасцю.

**Кансэкраваныя панны** ўтрымліваюць сябе дзякуючы ўласнай працы і самі клапоцяцца аб вылучэнні часу для малітвы, Эўхарыстыі і духоўнага развіцця.

Папа Францішак з'яўляецца першым у гісторыі Пантыфікам-**езуітам**.

Характэрнай асаблівасцю ўбораў **аблатаў** з'яўляецца вялікі нагрудны крыж, які манахі паводле статуту абавязаны цалаваць перад літургіяй і пасля яе.

**Францысканцы канвентуальныя** носяць на поясе белую вяроўку з трыма вузламі, якія сімвалізуюць поўнае прысвячэнне сябе Богу пасродкам трох абяцанняў: паслушэнства, цноты і беднасці.

Першыя **салезіяне** з'явіліся на тэрыторыі Беларусі амаль 100 гадоў таму ў мястэчку Дварэц (Гродзенская дыяцэзія), дзе адкрылі цясляркую школу.

Сярод знакамітых выхаванцаў **піярскіх** школ – Тадэвуш Касцюшка, Станіслаў Манюшка, Ігнат Дамейка.

**Кармэліты босыя**, якія выдалі 12-томную працу "Cursus Theologicus Salamanticensis" ("Саламанцкі курс тэалогіі"), лічацца лепшымі каментатарамі сачыненняў св. Тамаша Аквінскага.

**Сэрцане** развіваюць такія духоўныя практыкі, як набожнае перажыванне першых пятніц месяца, цэлебрацыя святой гадзіны, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

**Капуцыны** вырабляюць лекавы бальзам, рэцэптура якога вядома толькі манахам супольнасці.

**Рэдэмптарысты** стварылі вядомую ва ўсім свеце Навэнну да Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

**Міхаліты** маюць уласнае выдавецтва кніг і каталіцкай прэсы "Michalineum".

Манастыр Ясная Гара ў Польшчы, дзе захоўваецца знакаміты цудатворны абраз Маці Божай Чанстахоўскай, заснаваны ў XIV стагоддзі **паўлінамі**.

У Краміныцы (Гродзенская дыяцэзія) некаторы час існаваў кляштар **канонікаў латэранскіх**, які пасля шляхецкага паўстання 1831 года быў скасаваны.

**Кларэтыны** далі Касцёлу 4-ох кардыналаў, 7 арцыбіскупаў і 33 біскупа.

**Палатыны** служаць амаль ва ўсіх частках свету: у Еўропе, Азіі, Амерыцы, Афрыцы, Аўстраліі і Акіяніі.

# Ажыццяўляць Святое Дабравесце праз просты лад жыцця




**Кансэкраваныя асобы – вялікі дар для ўсяго свету. Манахіні, айцы і браты розных супольнасцей замацоўваюць і развіваюць традыцыі сваіх папярэднікаў і імкнуцца ўзбагачаць Касцёл у адпаведнасці са сваімі харызмамі. У сённяшнім нумары газеты бр. Яраслаў Крыловіч OFMCap распавядае пра сваю дзейнасць у Ордэне Меншых Братоў Капуцынаў і жыццё ў доме-пустэльні, што знаходзіцца ў мясцовасці Пералом над Нёманам.**



*Браты капуцыны займаліся душпастырскай працай, дапамагаючы ў паслузе вернікам парафіі Гожа*

**Брат Яраслаў, чаму Вы вырашылі назаўсёды аддаць сваё жыццё Богу?**

Я паходжу з Мінска. Рос у атэістычным асяроддзі і выхоўваўся без веры, хоць у дзяцінстве быў ахрышчаны. У 90-я гады, дзякуй Богу, пазнаў Хрыста і адкрыў для сябе каталіцкі Касцёл, які ўпоўні перадае скарб апостальскай традыцыі. Перамена жыцця ад няверʼя да веры была настолькі моцная, што я не бачыў сэнсу прысвячаць сілы і час на пошукі жонкі, будаванне зямнога "гняздзечка"... Амаль такое ж навяртанне перажыў Францішак Асізскі. Таму святы быў для мяне вельмі блізкім па духу. Я адчуў пакліканне далучыцца да духоўнай радні і ўступіў у ордэн капуцынаў, які лічыць св. Францішка сваім заснавальнікам.

**Гасціннасць і доўгая барада – прыкметы, па якіх пазнаюць капуцынаў. У чым яшчэ асаблівыя рысы членаў супольнасці? І на чым палягае асабіста Ваша дзейнасць?**

Цяжка вызначыць нейкія канкрэтныя адметнасці. Падкрэслю толькі, што ўсе яны вырастаюць з вопыту св. Францішка, які крочыў за Езусам Хрыстом. Калі казаць пра асабістую дзейнасць, то ў дадзены момант мне даверана духоўная асістэнцыя над Францішканскім ордэнам свецкіх. Яшчэ займаюся адміністрацыяй афіцыйнай інтэрнэт-старонкі капуцынаў у Беларусі. Па даручэнні братоў працую з рознымі дакументамі. Увогуле, дзейнасць, як і месцазнаходжанне кожнага капуцына, можа змяняцца, таму не даводзіцца яе ацэньваць у глабальным маштабе.

**На працягу некалькіх гадоў Вы наведвалі дом-пустэльню, што знаходзіцца ў Пераломе непадалёк ад в. Гожа. Як сталася, што пачалі практыкаваць жыццё з малітвай у самотнасці?**

Перад І Сусветнай вайной там быў кляштар капуцынаў. У савецкі час ён прыйшоў у занепад. Я заўважыў, што ў ваколіцах яшчэ жывуць старэйшыя людзі – сведкі мінулых часоў, якія добра памятаюць і кляштар, і братоў капуцынаў. Пачаў прыязджаць, сустракацца з імі, запісваць інтэрвʼю, каб захаваць гэтыя каштоўныя ўспаміны для гісторыі. Адначасова практыкаваў жыццё ў самотнасці, суровасці і малітве. Такі адыход ад звычайнага ладу жыцця, характэрны для духоўнасці св. Францішка, прыносіў добры плён для майго развіцця.

**Як выглядала жыццё ў скіце?**

Усяго не хапае – такое першае ўражанне. У скіце няма электрычнасці, таму зараджаць мабільны тэлефон даводзілася ад сонечных батарэй, а для гатавання ежы можна было выкарыстоўваць толькі невялікі газавы балон. Адным словам, патрэбы абмяжоўваліся да самага неабходнага.

Аднак калі падысці да гэтага па-евангельску, то шмат чаго новага адкрываеш і ў самім сабе, і ў Божым слове. Распарадак дня трэба было прыстасоўваць да ўмоў, рытму прыроды і надворʼя. Я – брат без святарскіх пасвячэнняў, таму на св. Імшу хадзіў не кожны дзень. Святыня знаходзіцца за 12 км, у Гожы. І ўспрымалася гэта як пілігрымка. Мясцовыя жыхары заўсёды ставіліся да мяне добразычліва, з павагаю. Многія ахвярна дапамагалі. Аднойчы, пакуль мяне не было, зрабілі рамонт хаткі. Гэта сведчыць аб тым, што такая манаская ініцыятыва вельмі патрэбна ў нашыя часы.

На жаль, у апошнія гады не атрымлівалася прыязджаць у Пералом, паколькі маю пэўныя абавязкі ў Мінску і не магу надоўга адлучыцца. Але спадзяюся, што гэтая перашкода часовая.


*На месцы былога касцёла ў Пераломе вернікі пабудавалі капліцу, у якой двойчы ў год адбываюцца ўрачыстасці*

**Скажыце, калі ласка, з вышыні свайго досведу: наколькі важна чалавеку час ад часу абстрагавацца ад штодзённай мітусні? Ці дапамагае ў гэтым малітва?**

"З вышыні свайго досведу" – гэта, пэўна, не зусім пра мяне: маю вельмі сціплы вопыт. Яго здольны набыць кожны чалавек, нават свецкі. Але ёсць духоўныя законы, Божае права. Напрыклад, у запаведзі гаворыцца, што працаваць трэба 6 дзён, а нядзелю і святочныя дні – прысвяціць Богу. А гэта ўжо заклік, каб адысці ад марнага жыцця і засяродзіцца, перадусім, на малітве. Той, хто занядбае такую практыку, незаўважна знішчыць самога сябе. Бог даў нам запаведзі толькі на тое, каб маглі жыць у шчасці.

**На працягу некалькіх гадоў Вы актыўна вялі экуменічную старонку на партале catholic.by. Чаму абралі менавіта гэтую тэматыку?**

Я быў ахрышчаны ў праваслаўнай Царкве. Сярод маіх родных няма католікаў, усе праваслаўныя. Таму канфесійны падзел праходзіць непасрэдна праз маё сэрца. Перажываю гэта як крывавую рану, быццам я сын разведзеных бацькоў, якіх Бог злучыў назаўсёды. На маю думку, менавіта адсутнасць эўхарыстычнай камуніі паміж католікамі і праваслаўнымі няспынна крычыць гучным голасам да неба, бо такая сітуацыя супярэчыць самой сутнасці Эўхарыстыі. Таму і апостальская дзейнасць не прыносіць багатага плёну, бо падзел паглынае моц, і атрымліваецца, што ўся праца нагадвае напаўненне дзіравага мяшка.

Але хваробу не вылечыць, калі проста забыцца пра яе існаванне. У дадзеным выпадку – абмежавацца, як хрысціяне, добразычлівымі жэстамі і супрацоўніцтвам у магчымых сферах. Гэта, канешне, патрэбна. Але неабходна знайці глыбокія карані праблемы, лячыць прычыны, а не сімптомы. Якім чынам? З аднаго боку, ёсць касцёльныя ўстановы, якія праводзяць тэалагічны дыялог. І гэта прыносіць свае плады. А я – манах. Мой шлях – гэта духоўны вопыт. На пэўным этапе свайго манаскага жыцця, пасля 8-9 гадоў жыцця заходняй капуцынскай традыцыяй у Польшчы, пасля атрымання вышэйшай тэалагічнай адукацыі я зразумеў, што маё пакліканне – быць, наколькі гэта магчыма, капуцынам руска-візантыйскай традыцыі (гэта значыць той, якой жывуць праваслаўныя ў Беларусі). І пры гэтым, вядома, быць на 100% каталіком.

На пачатку ўсё абмяжоўвалася манаскай келляй. Эпоха інтэрнэта і электронных прылад дазволіла шмат чаму навучыцца. Тады я і пачаў пісаць публікацыі на экуменічную тэму. Хацеў, перш за ўсё, сам разабрацца ў гэтым, а пры нагодзе падзяліцца інфармацыяй і з іншымі зацікаўленымі. З гады таму апынуўся ў Мінску. Там у мяне зʼявілася магчымасць прыходзіць у Чырвоны касцёл у грэка-каталіцкую капліцу і маліцца ў ёй паводле руска-візантыйскай традыцыі. На працягу 2-ух гадоў я быў зусім адзін. А апошнім часам там пачалі зʼяўляцца зацікаўленыя асобы, якім я тлумачу абрады, духоўнасць. Некаторыя вернікі ўжо ўдзельнічаюць у малітвах – чытаюць, спяваюць па-царкоўнаславянску. Той факт, што ініцыятыва пакрысе развіваецца, я не магу не звязваць з заступніцтвам Слугі Божага Эдварда Вайніловіча, а таксама з іконаю Багародзіцы "Змягчэнне злых сэрцаў", якую я аднойчы знайшоў на прыступках касцёла... Цяпер больш часу прысвячаю практычнаму экуменізму, таму пісаць новыя артыкулы пакуль не атрымліваецца.

**Пералом – калыска капуцынаў у сучаснай Беларусі. У першай палове XX стагоддзя тут пачалі працаваць браты, быў узведзены касцёл і кляштар. У пасляваенны час савецкія ўлады знішчылі пабудовы. Толькі праз цудоўнае заступніцтва Маці Божай Пераломскай, да якой браты нястомна маліліся, сталася так, што супольнасць заставалася ў гэтым месцы да 1955 года. Да 1984 года ў малой хатцы ў лесе жыў капуцын бр. Крыспін.**

**Чым яшчэ ў жыцці захапляецеся?**

Людзьмі. Ведаеце, ёсць асобы, якія вядуць святы лад жыцця. З такімі хочацца прабываць, вучыцца ад іх. Ёсць людзі, якія па свецкіх мерках нікому не патрэбныя – бамжы, хворыя, паміраючыя. З такімі таксама хочацца быць, бо адкрываеш Хрыста ў іншым чалавеку, вучышся любіць, а яшчэ – цверазееш (асабліва побач з паміраючымі).

**Капуцынаў у Беларусі пакуль няшмат. Якой Вы бачыце будучыню сваёй супольнасці?**

Кожны год прыходзяць 1-2 новыя кандыдаты, таму, дзякуй Богу, прагноз пазітыўны. Асабіста я мару, што Бог пакліча аднадумцаў для маёй ініцыятывы і атрымаецца заснаваць капуцынскі кляштар руска-візантыйскага абраду, каб такім чынам жыць і маліцца разам з братамі. Але на ўсё воля Божая. Калі мая ініцыятыва Усявышняму не прыйдзецца даспадобы, дык і мне яна не будзе патрэбная.

*Матэрыялы паласы падрыхтавалі Кінга Красіцкая і Ангеліна Пакачайла, выкарыстаны фота catholic.by*




### "Добра быць татам"

***Пад такім дэвізам у Польшчы распачалася сацыяльная акцыя заахвочвання да бацькоўства.***

*Мэта кампаніі – умацаваць пазітыўныя мадэлі сямейных адносін, заснаваных на адказнасці, вернасці, крэатыўнасці і гатоўнасці прымаць выклікі. У рамках акцыі рыхтуюцца тэлевізійныя рэкламныя ролікі. Свет убачыць даклад "Таты 2017" на тэму актуальных праблем, з якімі сутыкаюцца сучасныя бацькі.*

*"Польшча ўжо некалькі гадоў знаходзіцца ў глыбокім дэмаграфічным крызісе. Мы спадзяёмся заахвоціць мужчын да бацькоўства і вярнуць гэтай ролі належнае становішча ў грамадстве", – запэўніваюць арганізатары акцыі.*




### Жывёлы запоўнілі ваколіцы плошчы св. Пятра

***У 10-ты раз з нагоды ўрачыстасці св. Антонія Абата, заступніка жывёл і жывёлаводаў, у Ватыкане зладзілі "Ферму пад адкрытым небам".***

*Ягняты, козы, цяляты, парасяты, каровы, куры, трусы, aслы і коні былі дастаўлены ў горад з розных рэгіёнаў Італіі. Іх гаспадары прынялі ўдзел у св. Імшы ў базіліцы св. Пятра. Устаноўленыя непадалёк плошчы імправізаваныя стойлы сталі вялікай падзеяй для тысяч турыстаў, што наведвалі Ватыкан.*

*Сёлетняе адзначэнне ўрачыстасці св. Антонія Абата супала па часе з сурʼёзным землятрусам і крызісам у Італіі, выкліканым выключна суровай зімой у цэнтры і на поўдні краіны.*




### Рымская святыня прытуліла бяздомных на час халадоў

***Старажытны касцёл св. Калікста адкрыў свае дзверы для людзей, якія не маюць даху над галавой.***

*Штодзённа ў святыні прабывае каля 30-ці бяздомных: італьянцаў і замежнікаў. Патрабуючыя маюць магчымасць бясплатна павячэраць у сталоўцы, якая знаходзіцца недалёка ад касцёла, а таксама пераначаваць у цяпле. Увесь гэты час бяздомным дапамагаюць валанцёры з экуменічнай дабрачыннай супольнасці св. Эгідзія, якія клапоцяцца пра іх матэрыяльныя патрэбы, здароўе і стабільныя жыццёвыя перспектывы.*

***Кінга Красіцкая***

## Біскуп Юзаф Станеўскі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі ў мінскай архікатэдры

***Падчас урачыстасці ў касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі да яго прыступілі 35 вернікаў.***



Звяртаючыся да сабраных з гаміляй, іерарх нагадаў пра значэнне сакраманту, падчас якога вернікам удзяляюцца асаблівыя ласкі Святога Духа, неабходныя для духоўнага росту і прыпадабнення да Хрыста. “Касцёл чакае, што вы будзеце сапраўднымі і самастойнымі яго членамі. Дух Святы дакранаецца да вас, пасылаючы ў свет з соллю праўды і любові”, – падкрэсліў ксёндз біскуп.

Напрыканцы літургіі прадстаўнікі групы канфірмаваных выказалі ўдзячнасць Богу і тым, хто рыхтаваў іх да сакраманту.

## Святочны канцэрт адбыўся ў Дзятлаве

***Мерапрыемства, якое праходзіла ў Раённым цэнтры культуры і народнай творчасці, сабрала шматлікіх католікаў і праваслаўных. Праз спеў калядак прысутныя разам славілі Езуса Хрыста.***




Ініцыятарам сустрэчы выступіў кс. Здзіслаў Пікула SDB, пробашч мясцовай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. „Хацелася б, каб увесь наш раён жыў у радасці і міры, каб у кожным сэрцы, незалежна ад веравызнання, нарадзіўся Хрыстос”, – адзначыў святар.

Падчас канцэрта прагучалі радасныя песні аб нараджэнні Збаўцы ў выкананні дзяцей і моладзі. Удзельнікі мерапрыемства таксама прадставілі тэатральныя сцэнкі і прачыталі вершы, якія заахвочвалі гледачоў задумацца над сэнсам жыцця і аднавіць сваю любоў да Бога і іншага чалавека.

## Аплаткавая сустрэча душпастырства службы аховы здароўя адбылася ў Гродне

***Урачы, санітары і працаўнікі бальніц сабраліся на малітве ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.***



Сустрэча пачалася св. Імшой, якую ўзначаліў душпастыр службы аховы здароўя кс. Віталій Сідорка. Падчас Эўхарыстыі прысутныя асаблівым чынам маліліся ў інтэнцыі медыкаў, каб іх штодзённая праца была вялікай дапамогай для людзей і прыносіла благаслаўлёны плён.

Затым у манаскім доме Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта сабраныя падзяліліся аплаткай. Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч адзначыў, што праца медыкаў вельмі важная і патрэбная свету. Іерарх заклікаў удзельнікаў душпастырства бачыць у хворым чалавека, якому трэба аказаць міласэрнасць.

## Члены апостальскага руху “Маргарытка” сустрэліся ў Гродне

***Урачыстую св. Імшу ў семінарыйнай капліцы з удзелам шматлікіх прадстаўнікоў апостальства ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.***



Кс. Валерый Быкоўскі, мадэратар малітоўнай групы ў дыяцэзіі, адзначыў, што сёння існуе ўжо цэлая “армія” вернікаў, якія кожны дзень ахінаюць святароў малітвамі і ахвяруюць у іх інтэнцыі свае цярпенні, адрачэнні, аказваючы такім чынам падтрымку духавенству.

Звяртаючыся да сабраных з гаміляй, кс. Юрый Марціновіч звярнуў увагу на тое, што кожны чалавек павінен быць для акружэння як Хрыстос – ахвярным ягнём. “Як самааддаdanасцю маці карыстаюцца дзеці, як з працы бацькі жыве сям'я, так з нашай дапамогай павінны жыць і збаўляцца іншыя. Галоўнае – разумець сэнс ахвяры ва ўласным жыцці”, – адзначыў святар.

На заканчэнне св. Імшы біскуп Кашкевіч выказаў словы ўдзячнасці ўсім, хто належыць да апостальскага руху “Маргарытка”, і адзначыў, што дзякуючы гарачай малітве гэтых добрых людзей святары могуць узрастаць у Божай ласцы і рэалізаваць сваё пакліканне.

Сустрэча завяршылася дзяленнем аплаткай і складаннем ўзаемных віншаванняў.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч сустрэўся з працаўнікамі чыгункі

***Аплаткавае спатканне адбылося ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі душпастырства чыгуначнікаў са Свіслачы, Ваўкавыска, Парэчча, Ліды, Гродна і Мінска.***



Сустрэча пачалася св. Імшой. У гаміліі кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, адзначыў, што Езус Хрыстус заклікае кожнага чалавека да супрацоўніцтва ў будаўніцтве Божага Валадарства на зямлі. “Свет будзе спакойным толькі тады, калі ўсе ўнясуць у яго любоў. Стане лепшым, калі кожны пачне змяняцца”, – падкрэсліў святар.

Пасля Эўхарыстыі біскуп Кашкевіч падзякаваў працаўнікам чыгункі за іх штодзённае служэнне і пажадаў, каб праца, якую яны выконваюць, заўсёды была прыгожым сведчаннем служэння Богу і чалавеку. Затым удзельнікі сустрэчы падзяліліся аплаткай і склалі адзін аднаму святочныя пажаданні.

## Св. Імша ў інтэнцыі кс. Тадэвуша Вышынскага адбылася ў Гродне

***Аб вечным супакоі для спачылага прафесара ВДС у 30-ты дзень пасля смерці маліліся ў семінарыйнай капліцы.***



На Эўхарыстыю, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, прыбылі выкладчыкі, выхаваўцы і працаўнікі семінарыі на чале з кс. рэктарам Раманам Рачко, клерыкі, а таксама манаскія сёстры і святары з розных куткоў Беларусі.

Кс. Тадэвуш Вышынскі на працягу многіх гадоў дапамагаў алюмнам спасцігаць жыццёвую мудрасць і суправаджаў іх на нялёгкай дарозе да святасці. З'яўляўся для клерыкаў знакам вялікай веры і сапраўднага святарскага служэння. З сыноўскім даверам і адданасцю Богу семінарыйная супольнасць прасіла ў гэты дзень, каб Пан адарыў свайго слугу вечнай радасцю.

## У Гродзенскай катэдры адбылося экуменічнае набажэнства

***На супольнай малітве ў інтэнцыі адзінства вызнаўцаў Хрыста прысутнічалі прадстаўнікі рыма- і грэка-каталіцкага Касцёлаў, праваслаўнай і лютэранскай Цэркваў. Сёлета ў набажэнстве ўпершыню прыняў удзел пастар Царквы хрысціян поўнага Евангелля “Жывое Слова” Дзмітрый Малюкевіч.***



Экуменічнае набажэнства пад дэвізам “Прымірэнне – любоў Хрыста ахапіла нас” узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Падчас сустрэчы кожны са святароў звярнуўся да прысутных з невялікай прамовай. Пастар лютэранскай Царквы Уладзімір Татарнікаў падкрэсліў, што ўзаемаадносіны будуюцца на прабачэнні і прымірэнні. Вызваліцца ад самазадаволенасці і адкрыць дар служэння ў адзінстве заклікаў каліцкі святар кс. Антоній Грэмза. Пратэстанцкі пастар Дзмітрый Малюкевіч адзначыў, што калі Божае слова стане сапраўды відавочным і дзейсным для кожнага, тады “сцяна непаразумення абрынецца сама па сабе”. А. Андрэй Крот, грэка-каталіцкі святар, звярнуў увагу, што, нягледзячы на крокі, якія кіраўнікі розных Цэркваў робяць насустрач адзін аднаму, хрысціяне патрабуюць большай згуртаванасці. І пажадаў усім вернікам знайсці ўласны шлях пераадолення падзелаў паміж вызнаўцамі Езуса.

Пасля адбыліся абрады перадачы знаку супакою і святла. Гродзенскі ардынарый запаліў ад Пасхала свечкі і перадаў іх святло кожнаму прадстаўніку хрысціянскіх Цэркваў.

## АНОНСЫ

### КУРС ПА ВЫВУЧЭННІ БІБЛІІ РАСПАЧЫНАЕЦЦА Ў ОРШЫ

**Біблійны курс “Эмаус” на тэму “Дзеі святых Апосталаў” будзе праходзіць 3–5 лютага. Яго праводзяць доктар біблейскага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч і кс. Аляксандр Жарнасек MIC. Праграма заняткаў складаецца з вывучэння Святога Пісання і практыкі малітвы Божым словам. Прадугледжаны хатнія заданні.**

Пры сабе неабходна мець Біблію і пісьмовыя прылады. Запіс на курс працягваецца да 1 лютага.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 713-02-33 – кс. Аляксандр Жарнасек.*

### VI ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ “ДАСТУКАЦЦА ДА НЯБЁСАЎ” ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Трохгадзінны канцэрт адбудзецца 11 лютага ў Доме культуры тэкстыльшчыкаў. Пачатак у 19.00. Тэмай сёлетняга фестывалю стануць словы “Каб усе былі адно”.**

Упершыню фестываль прайшоў у Астраўцы ў студзені 2012 года як рок-фестываль рэлігійнай песні. Затым – у Гудагаі. Апошнія 3 гады адбываецца ў Баранавічах. За гэты час на сцэне выступалі такія гурты, як “AVE” (г. Гродна), “The Cross Way” (г. Баранавічы), “United in Spirit” (г. Баранавічы), “Laudans” (г. Мінск), “Небасхіл” (г. Мінск) і іншыя.

*Арганізатары абяцаюць гасцям шмат прыемных сюрпрызаў. Уваход бясплатны.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**2 лютага 1932 г.** – кс. Юзаф Зноска, *проб. Стараельня;*
**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*
**3 лютага 1952 г.** – кс. Эдмунд Пяткевіч, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск-Фара;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда-Слабада;*
**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда;*
**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны;*
**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Паноха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, *праф. Гродзенскай ВДС.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі* **grodnensis.by, catholic.by**

# Бацькоўскае эга замінае выхаванню паўнавартаснай асобы

**У грамадстве да дзяцей прынята ставіцца як да недасканалых і няправільна наладжаных істот, якіх трэба пастаянна выпраўляць і карэктаваць. Многія бацькі і педагогі эгаістычна мяркуюць, што без іх умяшання дзеці саб'юцца з праўдзівага шляху і ніколі не прыйдуць да поспеху. Але калі не прапанаваць сыну ці дачцэ самім вызначацца ў асабістых памкненнях, не даваць ім прайсці ўласным шляхам спроб і памылак, а ўвесь час падсцілаць салому, калі тыя спатыкаюцца, значыць зрабіць іх залежнымі ад сябе. У далейшым такія маладыя людзі нічога не даб'юцца ў жыцці самастойна.**



***Віталій Булыга***

*сямейны псіхолаг, псіхолаг-псіхатэрапеўт, выкладчык псіхалогіі ў Катэхетычным каледжы ім. З. Лазінскага ў Баранавічах, старшыня Брэсцкага абласнога грамадскага аб'яднання "Гільдыя псіхолагаў"; жанаты, бацька траіх дзяцей*

Сучасныя бацькі заўсёды на перадавой разнастайных ноу-хау, таму з задавальненнем вывучаюць і спрабуюць найноўшыя методыкі развіцця і адукацыі на сваіх дзецях. вядучыя даследчыя інстытуты заяўляюць пра шкоду ранняга навучання, беларускія дзеці ўсё ж праходзяць "разумную" школу, не перажываючы натуральнага дзяцінства.

**Варта прытрымлівацца вельмі важнага прынцыпу: "Жыві і дай жыць другому".**

Пачынаючы з прэнатальнага перыяду дарослыя безразважна імкнуцца "вылепіць" са свайго дзіцяці генія. Практыкуюць распазнанне чорна-белых малюнкаў для нованароджаных, гульні, якія развіваюць інтэлект, – для немаўлят, ранняе навучанне – для дашкольнікаў... А мудрыя бацькі заўсёды памятаюць пра адну вельмі важную ісціну – "усяму свой час і месца пад небам".

Нельга паўгадовае дзіця сілком навучыць хадзіць, як і немагчыма сцвярджаць, што ў 3 гады можна стаць паліглотам. Мозг дзіцяці развіты для адных дзеянняў, падлетка – для другіх. Кожнаму ўзроставаму этапу развіцця характэрны свае асаблівыя магчымасці і здольнасці. Напрыклад, матэматыцы дзіця неабходна вучыць у пачатковай школе, замежнай мове – з 4-5 класа. Да таго, усе псіхолагі сёння ў адзін голас заклікаюць паступаць у 1 клас з 7-мі гадоў, але ніяк не з 5-6-ці (асабліва хлопчыкам). У дзяцей яшчэ не развіта псіхіка. І хоць многія

Сёння амаль усе бацькі імкнуцца, каб іх сыны і дочкі атрымалі вышэйшую адукацыю. Наймаюць рэпетытараў (хоць праграма навучання за сярэднюю школу не горшая за "рэпетытараўскую"), бяруць крэдыты на навучанне, цягнучы на сабе груз іх уласнай адукацыйнай місіі... А дзіцё, можа, проста марыць круціць гайкі ў аўтамабілі і мае да гэтага здольнасці.

Мудрыя бацькі ведаюць і разумеюць пасланне, змешчанае ў "Прыпавесці аб талентах". У кожнага свае задаткі, таленты. Таму немагчыма "вылепіць" з кацяняці сланяня, а старэйшага школьніка, які валодае мастацкім

**Выхаванне – натуральны працэс, а не гульня ў лялькавода і марыянетку.**

талентам, прымусіць стаць другім Энштэйнам. Асноўная задача бацькоў палягае на тым, каб дапамагчы дзіцяці прыгледзецца да сваіх талентаў і вызначыцца ў жыццёвым шляху. А яно, у сваю чаргу, павінна навучыцца памнажаць і развіваць Богам дадзеныя якасці, а не закопваць іх і распыляць.

На жаль, большая частка моладзі ідзе па жыцці не сваім шляхам. У імкненні адпавядаць чаканням бацькоў або паддаўшыся ціску з іх боку, малады чалавек адмаўляецца ад пэўнай часткі ўласнага жыцця і інтарэсаў ва ўгоду іншым. У дарослым жыцці такі юнак ці дзяўчына ў зносінах з іншымі людзьмі будзе імкнуцца заваяваць іх прыхільнасць, часта дзейнічаючы на шкоду сабе. Завышаныя чаканні, ускладзеныя на чалавека ў дзяцінстве, з гадамі фармуюць паталагічнае пачуццё віны і сораму, калі ён не задавальняе такія патрабаванні.

Але адпавядаць бацькоўскім чаканням усё роўна не атрымаецца. І тады, у рэшце рэшт, малады чалавек проста перастане старацца, будзе трывожным і няўпэўненым. Гэта можа праяўляцца ў агрэсіўных паводзінах, выбліскаах гневу, апатыі, дэпрэсіі, залежнасцях ці нават спробах нанесці шкоду самому сабе. Таму бацькам у выхаванні вельмі важна не перагінаць палку, быць разважлівымі і мудрымі.

### Дараднік для мудрых бацькоў

**Прымаем той факт, што дзіця – не наша персанальная копія.** Ён абсалютна іншы чалавек, які не павінен паўтараць чыйсьці жыццёвы шлях, тым больш, увасабляць чужыя няздзейсненыя ідэі і мары.

**Вучымся паважаць дзіця як асобу і дазваляем яму ісці сваім шляхам.** "Дзіця – госць у тваім доме. Накармі, вывучы і адпусці", – гаворыцца ў індыйскай прыказцы.

**Імкнёмся прымаць дзіця такім, якое яно ёсць: з усімі вартасцямі і недахопамі.** Бацькоўская любоў значна важнейшая за мэтанакіраванае выхаванне. Больш за ўсё на свеце дзіця мае патрэбу ва ўпэўненасці, што яго прымуць, нават калі будзе "няправільным" і не такім, як таго хацелася бацькам.

**Памятаем, што ў кожным дзіцяці закладзена персанальная праграма развіцця, якая дазваляе яму вырасці ў самадастатковую асобу, не наносячы сабе шкоды.** Таму вельмі важна любіць дзіця, давяраць яму, цікавіцца яго жыццём і падтрымліваць.

**Вучымся гаварыць аб уласных чаканнях, пры гэтым прыслухоўваючыся да дзіцяці і яго меркавання.** Тады пустыя чаканні могуць пераўтварыцца ў плённае ўзаемадзеянне, дзе ў кожнага свая доля ўдзелу.

**Ведаем, што ў падлеткавым узросце дзіця расчароўвае бацькоў.** Гэта неабходна, каб яно аддзялілася ад маці і бацькі, усвядоміла, кім з'яўляецца, і выбрала свой шлях.

**Спрабуем пастаянна прымяраць на сябе тыя якасці і асаблівасці дзяцей, якія асабліва раздражняюць і расчароўваюць.** Часта складана прыняць у іншых тое, што ў саміх сабе не падабаецца, або тое, што ў дзяцінстве не ўдалося атрымаць або рэалізаваць.

**Разумеем і практыкуем палажэнне аб тым, што, перш за ўсё, неабходна займацца сваім жыццём, сужэнствам, кар'ерай, планамі, марамі.** Чалавек, які няшчасны сам, нікога не здольны зрабіць шчаслівым.

**І галоўнае, просім Бога штодня ў малітвах аб тым, каб споўнілася Яго Воля, а не наша.**




### На чым палягае місія святара?

*Важнай справай святара з'яўляецца абуджэнне чалавека да прыняцця ласкі веры і, канешне, дапамога ў яго духоўным развіцці. Для гэтага ксёндз можа парэкамендаваць неабходную аскетычную літаратуру, заахвоціць прымаць актыўны ўдзел у сустрэчах апостальскіх і малітоўных груп і інш. Для тых, хто ўмацоўваецца ў веры, святар прапануе бліжэй пазнаёміцца з супольнасцю Касцёла. Хрысціянін атрымлівае магчымасць знайсці там сваё месца і рэалізаваць пакліканне больш плённа і асэнсавана.*

*З аднаго боку, за духоўнае развіццё вернікаў адказны святары, якім Хрыстос дstation даручыў місію служэння і душпастырскай дзейнасці з мэтай збаўлення людзей, з другога – за самаўдасканаленне ласкі атрыманай веры адказны і сам чалавек. Не бяруся асуджаць ніводнага ксяндза за яго адносіны да людзей, якіх яны прывялі да прыняцця веры і не клапоцяцца аб іх далейшым духоўным прагрэсе. Але распазнанне духоўнага стану вернікаў павінна быць вырашальным у прыняцці неабходных крокаў, каб як найлепш спадарожнічаць пастве ў дарозе веры.*

*Можа быць і так, што вернік на пэўным этапе павінен самастойна прыкласці намаганні, каб прайсці ўводзіны ў хрысціянскае жыццё, паклапаціцца аб узросце сваёй веры асабіста, калі ксяндза няма побач. Тады роля святара будзе тычыцца духоўнага кіраўніцтва, якое не азначае ўмяшальніцтва, але прапанаванне духоўных парад і малітву за гэтую асобу, каб яе вера была свядомай і моцнай.*

***Кс. Антоній Грэмза***
*паводле grodnensis.by*




## XIV Фестываль калядак "Gloria in Excelsis Deo" прайшоў у Іўі

Мерапрыемства сабрала больш за 300 удзельнікаў. Падчас конкурснай праграмы выступілі салісты, дуэты, трыа, квартэты, ансамблі і хоры. Дзеці з энтузіязмам і ўсмешкай на твары стараліся данесці да гледачоў вялікую радасць аб нараджэнні Хрыста.
















# ЧАМУЧКІ

## Дзіцячая рубрыка



## Чаму стаць святым зусім няцяжка?

**Хутка споўніцца 160 гадоў з дня смерці Дамініка Савіо, які з'яўляецца адным з самых маладых заступнікаў у небе, прызнаных Касцёлам. Яшчэ пры жыцці хлопчык зразумеў, што стаць святым нескладана. У гэтым яму дапамагла "формула" кс. Яна Боска.**

Аднойчы Дамінік слухаў казанне кс. Боска, які гаварыў аб святасці. Святар падкрэсліў, што воля Божая палягае на тым, каб усе людзі сталі святымі. На небе душы чакае вялікая ўзнагарода.

З таго моманту Дамінік стаў марыць аб святасці. Але якім чынам ажыццявіць задуманае? Можа, трэба здзяйсняць епітым'ю, як св. Людовік, што бічаваў сябе да крыві? Або маліцца цэлымі начамі, як св. Францішак Асізскі? Калі б ён быў старэйшым, мог бы адправіцца на місію, падобна св. Францішку Ксаверыю або апосталам... Але як зрабіцца святым, жывучы сярод кніжак і падручнікаў, у школе, у трапезнай?

Дамінік занепакоіўся, страціўшы звычайную весялосць. Гэта заўважыў кс. Боска, які падышоў да хлопчыка і спытаў:

– Дамінік, як тваё здароўе?

– Дзякуй, добра.

– Але ты моцна змяніўся. Перастаў смяяцца, як раней. Можа, пакутуеш ад нейкага болю?

– Не, я пакутую ад радасці.

– У якім сэнсе?

– Разумееце, я прагну стаць святым. Раней лічыў, што гэта вельмі цяжка. Але цяпер, калі Вы сказалі, што ўсе мы можам стаць святымі, я таксама захацеў. Толькі не ведаю, што для гэтага трэба рабіць.

Кс. Боска ўсміхнуўся. Дамінік ужо далёка прасунуўся на шляху да святасці, хоць і не ведаў пра гэта. Быць святым – значыць любіць Бога і бліжняга. А Дамінік вельмі ўсіх любіў, нават калі яму было нялёгка і даводзілася ісці на немалыя ахвяры. І кс. Боска сказаў:

– Я хачу падарыць табе формулу святасці. Слухай уважліва. Першае – весялосць. Тое, што цябе турбуе і пазбаўляе супакою, ідзе не ад Бога. Але я гавару не пра тую дурасліўую весялосць, як бывае ў гарэз, а пра радасць: яна нараджаецца са згоды з Богам і іншымі. Другое – выкананне абавязкаў у дачыненні да вучобы і набожнасці. Трэба быць уважлівым у школе, старанна выконваць урокі, шчыра маліцца. Але рабіць усё гэта не дзеля ганарыстасці або пахвалы, а з любові да Бога, затым, каб стаць сапраўдным чалавекам. І трэцяе – тварыць дабро іншым. Заўсёды дапамагай таварышам, нават калі табе гэта падаецца вельмі цяжкім. У гэтым заключаецца ўся святасць.

*З кнігі Тэрэзіо Боска "Святы Дамінік Савіо"*



**Заданне:** складзі сваю формулу святасці.

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў усіх Божых ласкаў, сталай апекі Маці Божай, шмат сіл, цярплівасці, нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе і моцнага здароўя на доўгія гады. Шчасці Божа!

*Сям'я Заяц*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Галынкі*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец дадае Вам моцы, Дух Святы надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды асцерагае. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новай Руды*

**Паважанаму Айцу Віталію Слуку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў Тваім сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.

*Сям'я Шчэтко*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца.

*Касцёльны камітэт, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою, добразычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за адданую паслугу Богу і людзям, за клопат аб святыні. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне са Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Дзякуем за павучальныя казанні, якія паглыбляюць нашу веру, за ахвярную душпастырскую працу ў парафіі і адкрытае на кожнага чалавека сэрца. Няхай Вам хапае сіл для рэалізацыі планаў і намераў, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі, сярод якіх і мы – Вашы парафіяне.

*Вернікі з Рэплі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, душэўнага супакою, шмат радасці, моцнага здароўя, нязмернага шчасця, зычлівых людзей побач. За ўсё дабро, узятае з Божай рукі, за скарбы веры, плён працы, спакой, змаганні, усмешку шчасця і слёзы жалю, за ўскладзены на плечы крыж, веру, надзею і любоў мы ўдзячны Вам. Заўсёды будзьце на нашым шляху да Бога. Дзякуем за прыклад набожнасці, тактоўнасць, клопат пра нашу святыню і парафіян, а таксама за тое, што Вы з намі і для нас. Шчасці Божа!

*З малітвай, верныя парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Балі Касцёльнай*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня святога Заступніка складаем самыя сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае мацярынскай апекай і любоўю, Святы Дух спасылае свае дары, а святы Заступнік напаўняе радасцю і супакоем. Дзякуем за павучальныя казанні, усмешку і адкрытае на людзей сэрца.

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, кансэкраваным удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды свята Ахвяравання Пана складаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе асвечана святлом Хрыста, а Маці Божая, якой Вы нязменна давяраеце, заўсёды атуляе мацярынскай ласкай і дапамагае выконваць волю Нябеснага Айца. Дзякуем за Вашы добрыя сэрцы і працу, якой Вы прысвяцілі жыццё ў здароўі і радасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Кола Жывога Ружанца Маці Божай, Гіровічы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем, каб на працягу ўсяго свайго жыцця Вы ішлі з даверам і надзеяй да Бога, а ўсё, што робіце, здзяйснялі з запалам. Таксама жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі і радасці. 100 гадоў!

*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: усіх Божых ласкаў, здароўя і радасці. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень і адорвае здароўем на 100 гадоў жыцця, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух, шчодры на дары, дапамагае годна выконваць паслугу. Няхай Ваша сэрца будзе заўсёды напоўнена супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі.

*З удзячнасцю, парафіяне з касцёла св. Андрэя Баболі ў Казловічах*

**Любімай Сястры Агнешцы Лешко**

з нагоды 80-й гадавіны з Дня нараджэння і святога хросту складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай Пан Езус благаславіць кожны Ваш дзень, адорыць моцным здароўем, цеплынёй, любоўю, радасцю, а служба Богу і людзям прыносіць шчодры плён і задавальненне. Няхай Маці Божая няспынна ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай дабрыні, а Дух Святы будзе шчодрым на свае дары. Шчасці Божа!

*Удзячныя вернікі з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, сэрца напаўняюць любоў, надзея і супакой, а праца прыносіць радасць і задавальненне.

*З малітвай і павагай, вернікі з касцёла св. Роха, Грандзічы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем шмат сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус адорвае Вас благаслаўленнем і ўсімі ласкамі на доўгія гады, напаўняе святлом і сіламі. Жадаем апекі Маці Божай, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць кожную Вашу працу.

*Былыя парафіяне з вул. Зарэчная, Адэльск*

**Шаноўнай Сястры Агнешцы Лешко**

з нагоды 80-й гадавіны з Дня нараджэння і святога хросту ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, штодзённага ўзрастання ў веры і шчырай радасці ад кожнага пражытага моманту. Няхай міласэрны Бог адорыць усімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці прытуліць да свайго сэрца і нястомна апекуецца Вамі. Доўгіх гадоў жыцця!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гіровічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе Вас па Божых сцежках, Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом мацярынскай апекі, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі.

*З малітоўнай памяццю, былыя парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мятліцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог дадасць сіл для заканчэння будаўніцтва касцёла, Марыя прытуліць да свайго сэрца і дапаможа крочыць па выбраным шляху. Няхай Ваша мудрасць надалей вядзе людзей да Бога, а ўсмешка разліваецца на ўвесь свет. Здароўя і радасці!

*З дарам малітвы, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: усмешкі, запалу ў вачах, супакою ў душы і сэрцы. Няхай усё жаданае, што здавалася нязбытным, здзейсніцца, а побач заўсёды будзе Анёл-ахоўнік. Маці Божая няхай ахінае сваім мацярынскім плашчом, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё. Шчодрых Божых ласкаў на штодзень!

*Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Грэмзу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, цяпла і ласкі, усмешкі і радасці, каб у жыцці быў толькі пазітыў, а побач знаходзіліся верныя сябры. Няхай Езус Хрыстус захоўвае Вас ад бед і адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, а Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай пяшчотай. Божага благаслаўлення і шчодрых дароў Святога Духа!

*Апостальства "Маргарытка"*

**Паважаным Ксяндзу Паўлу Беланосу і Клерыку Аляксандру Жоліку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, радасці, шчодрага плёну ў паслузе на ніве Пана, апекі Маці Божай на кожны дзень жыцця, а таксама шмат Божых ласкаў. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Макараўцаў*

**Каханаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя шчырыя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму і радасці. Няхай Твой жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, святы Заступнік няхай дапамагае рэалізоўваць планы і намеры, а Маці Божая вядзе найпрыгажэйшымі сцежкамі сярод зычлівых і добрых людзей.

*Мама і тата*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, усіх патрэбных ласкаў ад Пана Бога, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрых дароў ад Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю, супакоем і радасцю.

*Жыхары з в. Шэмбелеўцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл./факс: **(80152) 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 456 ; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная